Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

# НАПЕРАД!

Беларуская радыкальная тыднёвая часопіс.

Цана асобнага нумару 20 гр.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская 8, кв. 3.

Прыймо інтэрэсантаў ад 9 да 2 гадз. што-дня, апрача сьвятаў і нядзель.

Падпіска з дастаўкай да хаты: на 1 год—7 зл., за паўгоду—3 зл. 50 гр., за 3 мес.—2 зл., за 1мес.—75 гр.

Год 2. Вільня, 5 сакавіка 1930 г. №. 10

## Асадніцтва ня спыняецца!

Польская калянізацыя Заходняе Беларусі ня толькі ня спыняецца, але йдзе далей прысьпешаным тэмпам. Ня гледзячы на дружныя пратэсты ўсяго беларускага сялянства, страшэнна церпячага ад малазямельля, проці раздаваньня зямлі людзям прышлым—польскім асаднікам, ня гледзячы на сьцьвярджэньне навет абшарніцкім органам („Słowo“), што гэныя асаднікі ў большасьці сваей прадстаўляюць зусім неадпаведны матэрыял дзеля асаджваньні іх на зямлі,—калянізацыйнай акцыяй урад займаецца вельмі паважна.

Доказам гэтага зьяўляецца факт, што на паседжаньні Сойму 25 лютага с. г. былі ўнесены ў Сойм і адасланы ў зямельную камісію чатыры праекты законаў аб асадніцтве: 1) новэля (новы артыкул да ўставу аб наданьні зямлі жаўнерам); 2) устаў аб пашырэньні старога ўставу аб надаваньні зямлі жаўнерам на некаторыя паветы Віленскага ваяводзтва; 3) устаў аб дадатковым запасе зямлі на заканчаньне асадніцкае акцыі, 4) устаў аб упаважненьні для ўраду да прызначэньня пад вайсковае асадніцтва некаторых зямельных нярухамасьцяў.

Не ўваходзім у істоту ўсіх гэтых праектаў, якія, пэўне-ж, хутка атрымаюць законную сілу, ня гледзячы на дружны пратэст у Сойме беларускіх і украінскіх паслоў. Для нас мае паказальнае значэньне самы факт, што справы далейшага насаджваньня ў Заходняй Беларусі польскіх каляністаў урад пакінуць ня зьбіраецца ды навет яе пашырае, што ня будзе спынена акцыя раздаваньня палітай нашым потам і крывёй зямлі—чужынцам.

Няўжож падзеі апошніх гадоў, якія разыграліся на землях Заходняе Беларусі, такі нічога не навучылі кіраўнікоў польскае дзяржаўнае палітыкі?!.

# Тамаш Масарык.

(1850—1930).

Закон ёсьць сам у сабе і не ў гісторыі, але ў самым сабе, знаходзіць апору.

*Масарык. „Студ. і пал.“ стр. 30.*

Не матэрыя і цела ёсьць крыніцаю зла, але дух!
Зло ня ёсьць у матэрыі і ў целе, але выходзіць з духа.

*Масарык. „Гуман. ідэалы“ стр. 72.*

7-га сакавіка сёлетняга году маладая Чэхаславацкая рэспубліка пакloніцца свайму 80-годняму прэзыдэнту. Тамаш Масарык 7-га сакавіка ступіць нагою ўжо на загон біблійнага веку. Кожнае места, мястэчка і вёска ў рэспубліцы жыва рыхтуюцца да ўрачыстага сьвяткаваньня гэтага дня. Розныя дзяржавы й унівэрсытэты вызначылі ўжо дэлегацыі на дзень 7-га сакавіка ў Прагу. Хай-жа і паклон паднявольнага, гаротнага Беларуса з беднае і бязхлебнае беларускае хаты злучацца ў гэты дзень з паклонам усіх перад сівым Масарыкам, сынам беднае і паўгалоднае сям'і малога мараўскага мястэчка.

Палітычная думка сьвету вітае Масарыка-палітыка; навуковы сьвет—Масарыка-прафэсара; славянскі—Масарыка-славяніна; а маральна-дабрачынны сьвет злучае ўсе гэтыя бакі ў вадзін абраз **Масарыка-Чалавека**, апостала **Справядлівасьці, Дабра й Любові**. Цяжка, а паводле нашай думкі—немагчыма дзяліць Масарыка, разьменіваць Масарыка: Масарык—цэласьць непадзельная. Кожны Масарыкавы крок, кожная напісаная і выказаная ім думка ёсьць прадукт Масарыка-Чалавека, а Масарык-Чалавек, гэта—**этычны рэаліст**. **Этычны рэалізм**—гэта ключ, які нам адчыніць дзьверы да зразуменьня кожнага Масарыкавага ўчынку, разьвяжа кожны вузел і растлумачыць „загадку“. Этычны рэалізм ёсьць адзнакаю славянскае філёзофіі; гэта адзнака аддзяляе Славянаў ад сьвету гэрмана-раманскага і злучае раздробленае Славянства ў адзіную суцэльнасьць. Гляньма ў мінуўшчыну: Багамілы, Гус, Хэльчыцкі, Чэскія Браты (Комэнскы), наш Скарына, Славянафілы, польскія Мэсыяністы, Бакунін, Гэрцэн, Чэрнышэўскі, Дабралюбаў, Лаўроў, Дастаеўскі, Л. Талстой, Масарык, А. Чэрны і Драгаманіў—гэта ланцуг тых, якія сваім жыцьцём хацелі „каралеўства божае“ з „неба“ на зямлю перанесьці. А прыгледзьмася бліжэй да жыцьця й працы бацькі нашага Вызваленьня нябошчыка Івана Луцкевіча: аб усім забыўся,—сям'я, жыцьцё для сябе, здароў'е, кампанія, багацьце і спакой—усё аддаў для ідэі Справядлівасьці, абароны затаптаных людзей-братоў. Этычны рэалізм,—чаруючая нітка гісторыі славянскага думаючага сьвету. Ідэя мусіць стацца зараз жыцьцём! Немагчыма разьдзяленьне ідэі і жыцьця!

Калі спрабуем тлумачыць пададзеныя вышэй прыклады, то ярчэй высьветліцца нам істота гэтага. Возьмем Вікліфа і Гуса. Для Гуса мала было кабінэтнае, літэратурнае працы—змаганьня з папаю, для яго мала было веры, што ягоная навука калісьці зьнішчыць скажэньне хрысьціянства—Рым. Ен, адзінокі, ідзе на казальніцу, падымае ўвесь край; ліецца кроў за ідэю, а ён сам з бліскучымі вачыма зыходзіць на вогнішча і гарыць. Ідэя адразу мусіць быць жыцьцём! Гэта—Славянін. А Вікліф? Ціхая кабінэтная, доўгая праца; думка цьвёрда лажыцца ў кнігу, а кніга пасьля доўгіх гадоў родзіць жыцьцё. Ідэя сягоньня, а жыцьцё заўтра ці аж пазаўтра. Гэта—Ангелец. А Спэнсэр—Маркс і Чэрнышэўскі—Міхайлоўскі—Ленін? Тое самае. Ангелец і Немец цэлае жыцьцё сядзяць замураваныя кнігамі, родзяць думкі, якія ёсьць пачаткам новае эры чалавецтва; іхнія томы сягоньня ёсьць настольнаю кнігаю кожнага думаючага чалавека. А Славяне? Не сядзяць у габінэтах і не замуроўваюцца кнігамі: яны адразу йдуць у жыцьцё. Чэрнышэўскі хутка выпускае ad hoc зроблены рэцэпт новага жыцьця „Что делать?“ і сам ідзе ў падпольную арганізацыю, а адтуль—крыжовая дарога: ссылка. Міхайлоўскі хвіліву задумваецца; заўважаная ім малая супярэчнасьць паміж дарвінізмам і марксызмам запыніла яго на часіну. Геніяльнаю думкаю аб ролі індывідуальнасьці (Что такое прогрэсс?) лучыць гэтыя дзьве дысцыпліны і сам зараз-жа становіцца... „властителем дум“ падпольнае Расеі. А Ленін? Выняткова геній гісторыі чалавецтва, але, зноў жа... на арэне жыцьця, а не кабінэту. Хто ўважна прасачыў пачаткі кожнага ідэйнага руху ў славянскім сьвеце, той напэўна сьцьвердзіць гэтакія зьявы. Усюды тутака—неразлучнасьць ідэі і жыцьця.

Мы, напэўна, сустрэнемся з цьвёрдым пытаньнем: чаму этычны рэалізм гэтак розьніць славянскі сьвет ад іншых? Адказ адзін: думаючы Славянін ня можа глядзець на цыфры і бачыць толькі цыфры. Конкрэтна на прыкладзе: марксіст Немец ці Англіец спакойна піша і студыюе напр. праблему галадаючае бядноты. Сьцюдзёнымі, упорыстымі мазгамі вылічае цыфру міліён і робіць вывад: тады і тады мусіць наступіць крах. Славянін ня бачыць цыфры міліён, а бачыць міліён жывых абдзёртых, хворых, стогнучых, галодных бедакоў: яны ўсе адразу зьяўляюцца перад ягонымі вачыма. Ен ня мае сілы рабіць вывад упорыстымі мазгамі. Кідае ўсё—і сам ужо паміж няшчаснымі. Ягонае сэрца—ключ ягонае думкі. Ен—варштат перадтвараньня нашае сьлёзнае зямлі ў радаснае неба. Аб гэтай рысе славянскае душы не павінны забывацца біографы сьветлай памяці нашага Івана Луцкевіча, бо йнакш, паводле нашае скромнае думкі, ягонае падзіву годнае жыцьцё ня будзе перачытана да канца. На гэтым абрусе этычнага рэалізму дужа лёгка нам будзе глядзець і на постаць вялікага Масарыка.

Тамаш Масарык нарадзіўся 7 сакавіка 1850 г. ў беднай сям'і малога мараўскага мястэчка, Годоніна. Першую, элемэнтарную асьвету дастаў з нямецкае школы роднага места. Бедныя бацькі думалі выгадаваць Тамаша на сьлёсара; аддалі ў Вену ў сьлясарню. Праз 3 тыдні хлапчук зьненавідзеў свае дзела і апынуўся ў хаце. Абдумалі зрабіць яго кавалём. Аддалі ў м. Чэйцы вучыцца каваць. Ня доўга й каваў Тамаш. Пакінуў. Пацягнуліся беднаму хлапчуку цяжкія гады. Думка аб навуцы б'е балюча па юнацкіх ужо пятах. Вучыцца, як толькі зможа і дзе толькі зможа. Нарэшце, у 1865 г. апынуўся ў другой клясе нямецкае гімназіі ў Брне (Марава). Але ў 1869 г. за „неблаганадзёжнасьць“ быў змушаны пакінуць школу ў Брне і перабрацца ў Вену. У часе бытнасьці яго ў сёмай клясе венскае гімназіі, быў абвешчаны догмат „неабмыльнасьці папы“. Масарык на лекцыі заяўляе капэляну, што не прызнае „новага догмату“ і, дзякуючы гэтаму, мяняе веравызнаньне на грэцка-уніяцкае (без веравызнаньня ня можна было ў Аўстрыі вучыцца). Матуру дастаў 1872 году. Хацеў пасьвяціць свае жыцьцё дыплёматычнай дзеяльнасьці, але, з прычыны свайго пралетарскага паходжаньня, ня змог паступіць у венскую орыентальную акадэмію, куды былі адчынены дзьверы толькі шляхце. Пайшоў на філёзофію ў венскі ўнівэрсытэт. У 1876 г. скончыў навуку з тытулам доктара філёзофіі. Адсюль пачынаецца Масарыкава навука—грамадзкая праца, якая зрабіла яго вялікім і слаўным Змагаром за Справядлівасьць, Дабро і Любоў у Чалавецтве.

Цяжкое жыцьцё і філёзофічныя студыі выкавалі з Масарыка сталёвага этычнага рэаліста. У гісторыі чэскае думкі Масарык—гэта эпоха. Паход рэалістаў проці наіўнага романтычнага гістарызму ў канцы 80-ых гадоў мінулага стагодзьдзя перамалоў усё чэскае думаючае жыцьцё ў новую муку, з якое сягоньня красуе вольнае жыцьцё. Усё, што толькі было рэакцыйнае ў старой Аўстрыі, паўстала проці Масарыка; усё паступовае, соцыялістычнае стаяла за ім. Страшэннае і цяжкое было змаганьне; перасьледаваньне і ўціск чарадаваліся з сабою. Аж вочы ня верацць, калі сягоньня чытаеш, якіх нялюдзкіх і нягодных спосабаў ужывала аўстрыяцкая ўлада і рымскі касьцёл у змаганьні з гэтым вялікім і сьвятым Чалавекам, якога ніводзін учынак і ніводная думка ня была ськіравана проці Справядлівасьці, Дабра, Любові. Перачытайце кожнае Масарыкавае слова і прасачыце кожны ягоны ўчынак, і вы пракажацеся, што гэтаму чалавеку пакланіцца кожны, хто верыць у Справядлівасьць.

З этычнага рэалізму радзілася кожная думка і кожны ўчынак Масарыка. Калі запануе справядлівасьць у славянскім сьвеце, тады згіне міжславянская разьня. Славянскія народы мусяць быць вольнымі, зьнішчыць ярмо, што іх прыгнятае, а тады злучыцца ў вольнае Брацтва. Пад ярмом ня можа быць Брацтва! Яно можа толькі нарадзіцца на Свабодзе і Любові. Кожны мае права жыць, хто толькі хоча жыць і чыё жыцьцё не пярэчыць маральнаму закону. Забіваць гэтае жыцьцё—ёсьць злачынства! Выходзячы з этычнага рэалізму, Масарык прызнаў і бараніў права на свабоднае жыцьцё і нашаму, і ўкраінскаму народу. Дэлегат беларускага народу на Вэрсальскай канфэрэнцыі, Антон Луцкевіч, прыступаючы да выпаўненьня ўзложанае на яго місіі, знайшоў у асобе вялікага Масарыка шчырага памагатара і дарадчыка.

Час паступова гоніць у магілу ўсё рэакцыйнае, антыспраўядлівае і антылюдзкое. Ідэі Масарыка горнуць пад крыльле свае ўсё жывое, свабоднае, соцыялістычнае і будучае. Чэхаславацкі народ ацаніў Масарыка і абдарыў яго беспрыкладнаю, шчыраю любоўю. Трудна знайсьці другі такі прыклад на сьвеце, дзе-бы гэтак любілі і шанавалі грамадзяне свайго прэзыдэнта; але, праўда, трудна знайсьці недзе другога Масарыка. Здаровы і нармальны чалавек ня ўявіць сабе магчымасьці, каб мог быць учынены на Масарыка нейкі замах! Ен штодзенна ходзіць па вуліцах Прагі бяз ніякае „ахраны“. Гэтая загадка крыецца ў Масарыку-Чалавеку. Ацэніць Масарыка і славянскі сьвет; ягоныя ідэі мусяць перамагчы і запанаваць, бо яны нарадзіліся з Справядлівасьці, Дабра і Любові.

Мы, Беларусы, з пашанаю сукланяемся сягоньня перад постацьцю вялікага Масарыка, бо ідэя Свабоды нашага народу ёсьць дамаганьнем Справядлівасьці, за якую ўсё жыцьцё змагаецца Ен.

Фр. Грышкевіч.

Прага, люты, 1930.

